# Вайна Японіі з Кітаем.

### Адход кітайскіх войскаў ад Шанхаю.

Дзякуючы вялізарнай перавазе сваей артылерыі, японскія войскі пасьля страшэнна крывавых баёў дый гэройскага апору з боку кітайцаў—урэшце дапялі сваей мэты і адціснулі кітайцаў ад Шанхаю з яго ўкрапленьнямі блізу на 20 кілямэтраў. Адступленьне кітайцаў, якія маглі-б яшчэ доўга трымацца, выклікана высадкай японскага атраду з флянгу кітайскага фронту ды пагроза абыходу апошняга. Адход кітайскіх войск адбыўся больш менш у парадку. Кітайская армія ўмацавалася на новых пазыцыях, не прызнаючы сябе пераможанай японцамі.

### Новая амэрыканская пагроза Японіі.

Як ведама, Японія робіць сваё дзела ў Кітаі, не зьвяртаючы ніякай увагі на срогія заявы ды пастановы Лігі Нацыяў, а навет — „наймагутнейшай“ Амэрыкі. Амэрыка спачатку ўзяла вельмі рашучы тон, але яе не падтрымалі іншыя вялікія дзяржавы. Дык яна ўсьцяж прабуе толькі слаць тыя ці іншыя пагрозы Японіі. Гэтак, нядаўна мін. загран. спраў Амэрыкі Стымсон напісаў пісьмо да ведамага сэнатара Бора, праз галаву якога грозіў Японіі, што Амэрыка, сьледам за Японіяй, зламае Вашынгтонскую ўмову ў справе абмежаваньня марскіх азбраеньняў дый распачне нанова разбудову свайго флёту. А вось толькі-што Амэрыка пастанавіла выслаць увесь свой флёт у Вялікі акіян—пад Гавайскія астравы, якія ляжаць блізу на паўдарозе з Амэрыкі да Японіі, і на якіх Амэрыканскія Штаты маюць вялікую марскую базу. Тутака амэрыканскі флёт мае распачаць „вялікія марскія манэўры“, ці „гульню ў вайну“, якая, зразумела-ж, мае выразны характар ваеннай дэманстрацыі проці Японіі. Што гэтая ваенная дэманстрацыя, ці гульня ў вайну, можа ў кожны мамэнт ператварыцца ў вайну запраўдную, ня можа быць сумліву. Залішне ўжо правакацыйна, нахальна ды цынічна захоўваецца Японія ў Кітаі.

### Праграма Японіі.

Наскольки запраўды абнаглела Японія, паказывае заява спэцыяльнага паўнамоцніка японскага ўраду ў Шанхаі Матсуокі, які падаў наступныя 8 пунктаў „азіяцкай праграмы“ Японіі—у зьвязку з яе акцыяй у Кітаі:

1. Справа Манчжурыі ужо вырашана Японіяй аканчальна; ніякага умяшаньня ў яе з боку іншых дзяржаваў, ані Лігі Японія не дапусьціць.

2. Японія лічыць сябе галоўным валадаром Далёкага Усходу, ці Усходняе Азіі. Да гэтае Японскае Усходняе Азіі Японія будзе тасаваць палітычны прынцып, падобны да ведамай амэрыканскай „доктрыны Монроэ“, якая кажа: „Амэрыка для амэрыканцаў“.

3. Трактат 9 дзяржаваў, гарантуючы нятыкальнасьць тэрыторыі Кітаю, страціў сваю сілу (?), як „накінены Японіі“, (хаця тая падпісала яго бяз прынукі дый не зрабіла тады ніякіх засьцярогаў).

4. Японія сама завядзе парадак ды мір у Кітаі...

5. Дзеля таго Японія павінна перамагчы ды пабіць Кітай, каб прымусіць яго да міру і пакоры, прадыктаваўшы яму варункі міру...

6. Акцыя Японіі пад Шанхаем ня ёсьць вайна, але карацельная экспэдыцыя.

7. Трактат Кельлёга трэба паправіць так, каб байкот чужаземных тавараў якім-небудзь краем быў прызнаны ваеннай акцыяй, якая апраўдывае вайну проці яго.

8. Японія маніцца здэмілітарызаваць увесь Шанхайскі раён.

### Спэцыяльная сэсія Агульнага Збору Лігі Нацыяў.

Як ведама, 3 сакавіка (а не мая, як падалі сьпярша газэты) распачалася надзвычайная сэсія Агульнага Збору Лігі Нацыяў, спэцыяльна склікаеая па трэбаваньню Кітаю.

Дыскусія распачалася паедынкам паміж дэлегатамі Кітаю і Японіі. Кітайскі дэлегат даў агляд усіх здарэньняў крывавага канфлікту, падчырківаючы захватную акцыю Японіі і абаронную тактыку Кітаю. Ен казаў, што ваенная акцыя Японіі ня спынілася і цяпер, калі Ліга разважае канфлікт. Пад уплывам апошняга пасьпеху Японія не злагодзіла сваіх варункаў, як думалі некаторыя, але наадварот — паставіла новыя варункі, якіх Кітай прыняць ня можа, бо-ж гэта варункі капітуляцыі, якія ставіць пераможца пераможанай дзяржаве. Але Кітай, казаў яго дэлегат, зусім ня лічыць сябе пераможаным, дык варункаў гэтых прыняць ня можа. Жаданьні Кітаю ад Лігі—вельмі скромныя: Кітай дамагаецца толькі маральнага прысуду, толькі сьцьверджаньня таго, што Трактат Кельлёга і ўмову 9 дзяржаваў зламала Японія, дый што таму Японія, але не Кітай, зьяўляецца адказнай за ўсе крывавыя здарэньні на Далёкім Усходзе. — Прыперты да муру японскі дэлегат заявіў, што японская армія атрымала загад спыніць ваенную акцыю, і паўтарыў ведамыя ўжо абвіненьні Кітаю ў антыяпонскай акцыі, якая і выклікала „карацельную выправу“ ў Шанхай. Пры гэтым японскі дэлегат ані слова не адказаў кітайскаму на яго закіды ў справе захвату Манчжурыі: Японія цьвёрда стаіць на тым, што Ліга Нацыяў „ня мае голасу ў манчжурскай справе, ужо вырашанай Японіяй „канчальна“...

4 сакавіка спэцыяльная камісія апрацавала праект рэзалюцыі, якую Агульны Збор прыняў аднагалосна, адкінуўшы ўсе папраўкі, прапанаваныя японскай дэлегацыяй.

Рэзалюцыя прапануе Японіі і Кітаю „дагледзіць дакладна, каб іх ваенныя каманданьні выканалі загады спыненьня ваеннае акцыі, заклікаючы прадстаўнікоў іншых дзяржаваў на тэатры вайны, каб тыя паведамілі Лігу, як выкананы на дзеле гэтыя загады. Далей рэзалюцыя прапануе безадкладна наладзіць канфэрэнцыю — пры ўчасьці ўсіх заінтэрэсаваных дзяржаваў — дзеля найхутчэйшага зьліквідаваньня канфлікту і вызваленьня кітайскай зямлі ад японскіх войскаў.

Японскі дэлегат не пратэставаў проці рэзалюцыі, але гэта ня значыць, што Японія пакорна споўніць дамаганьні Лігі. Трэба спадзявацца яшчэ вялікіх клапотаў на Далёкім Усходзе.

### Магчымасьць вайны паміж Японіяй і СССР.

Да спакою ды міру на Далёкім Усходзе яшчэ далёка. Навет калі-б неяк удалося зьліквідаваць канфлікт паміж Японіяй і Кітаем дый марскімі дзяржавамі пад Шанхаем, дык зараз-жа яшчэ больш разгарыцца канфлікт паміж Японіяй, Кітаем і СССР за Манчжурыю.

Аб важнасьці Манчжурыі для СССР мы ўжо пісалі ня раз. Дык Японія, захапіўшы Манчжурыю, павінна будзе забясьпечыць сваё панаваньне ў ёй з паўночы, адкуль пагражае СССР. Таму Японія быццам ужо рыхтуецца да захвату Прыморскай Області СССР з портам Уладзівастокам. Пры гэтым Японія ня толькі зусім не хавае быццам сваіх мяркаваньняў, але патрэбавала навет, каб расейская „Усходня-Кітайская“ чыгунка ў Манчжурыі сама перавозіла японскія войскі на граніцу Прыморскай Області.

Ведама-ж, у Маскве пануе вялікая трывога. Маскоўскі ўрад шле значныя сілы на Далёкі Усход. У раёне Уладзівастоку дый удоўж граніцы стаіць ужо некалькі корпусаў войска дый сабрана шмат ваенных запасаў.

Трэба дадаць, што Японія ў Манчжурыі дае падтрыманьне ваенным арганізацыям расейскай процібальшавіцкай эміграцыі, рахуючы, зразумела, на іх дапамогу ў магчымай вайне з СССР.

# Жыцьцё Польшчы.

### Марш. Пілсудскі выехаў у Эгіпет.

1 сакавіка марш. Пілсудскі выехаў праз Румынію ў Эгіпет дзеля папраўы здароўя.

### Памер біскуп Бандурскі.

Выдатны польскі патрыот і незалежніцкі дзеяч біскуп Бандурскі памер у Вільні. Урачыстыя пахароны з учасьцем п. Прэзыдэнта і сяброў ураду адбыліся 10 сакавіка.

### Бюджет у Сэнаце. Новыя законадаўчыя паўнамоцтвы для выканаўчае ўлады.

За апошнія дні Сэнат закончыў разгляд бюджэту. Бюджэт прыняты Сэнатам блізу цалком у такім відзе, якім яго падаў у Сойм ўрад.

Такім чынам парлямант у Польшчы ўсё больш траціць сваю ўласьцівую ролю. Асабліва гэта падчырківае той факт, што ўрад толькі што падаў у парлямант, які хутка ўжо канчае сваю працу — сваю бюджэтную сэсію, праект прызнаньня Соймам ураду новых вельмі шырокіх законадаўчых паўнамоцтваў у розных галінах дзяржаўна-грамадзкага жыцьця.

### Рэформа сацыяльнага страхаваньня.

Урад падаў у Сойм праект грунтоўнай рэформы сацыяльнага страхаваньня. Рэформа мае на мэце аб'яднаньне і зьніжэньне коштаў сацыяльнага страхаваньня працоўных. Замест існуючых трох асобных установаў: страхаваньня ўмысловых працаўнікоў, страхаваньня ад выпадкаў і касаў хворых,— мае быць, паводле новага праекту, створана адна цэнтральная ўстанова сацыяльнага страхаваньня. Да гэтага цэнтральнага „Закладу“ маюць быць дадаены яшчэ новыя формы страхаваньня, а іменна: страхаваньня работнікаў на старасьць і ад інваліднасьці.

# З літоўскага жыцьця.

### Справа зачыненых літоўскіх школ.

Літоўскія культурна-прасьветныя арганізацыі зьвярнуліся да цэнтральных уладаў у Варшаве з мэмарыялам, дамагаючыся адчыненьня зачыненых 10 літоўскіх школ або дазволу на адчыненьне замест іх новых школ. Паводле газэтных вестак міністэрства асьветы мае быццам даць дазвол на адчыненьне некалькіх новых літоўскіх школ, але—толькі з пачаткам новага школьнага году, знача — ад восені. Гэты-ж школьны год для літоўскіх дзяцей, як'я вучыліся ў зачыненых уладамі школах, будзе беспаваротна страчаны...

### Арышты былых вучняў.

Па загаду пракуратуры ў Вільні арыштаваны 5 вучняў літоўскае гімназіі ім. Вітаўта Вялікага і 3 студэнтаў літвіноў. Усіх іх вінавацяць у прыналежнасьці да камуністычнае партыі і арганізацыі камуністычнае „ячэйкі“ сярод вучняў гімназіі.

Як падае „Słowo“, арыштаваныя вучні за гэту работу былі выдалены з гімназіі дырэкцыяй яе.

Хто памятае сумныя падзеі нядаўнага часу ў беларускіх гімназіях, таму абраз, які стварыўся ў літоўскай гімназіі, зусім ясны.

# З усяго сьвету.

### Новае завастрэньне гаспадарчай вайны паміж Польшчай і Нямеччынай.

Нямецкі ўрад ізноў выдаў загад, які можна тлумачыць толькі жаданьнем далейшага завастрэньня гаспадарчай вайны з Польшчай, якая распачалася, як ведама, ад 1925 г. Урад падвоіў мыта на тавары, якія ўвозяць у Нямеччыну дзяржавы, з каторымі Нямеччына ня мае гаспадарчых трактатаў. Такіх дзяржаў, як ведама, толькі тры: Польшча, Канада і Аўстралія, але прывоз з іх усіх у Нямеччыну разам не перавышае 5 проц. усяго нямецкага ўвозу. Таму мэтай гэткай меры Нямеччыны можа быць толькі палітычнае завастрэньне адносінаў з Польшчай. Асабліва дзіўны гэты крок адносна да Польшчы, якая даўно ратыфікавала гандлёвую ўмову з Нямеччынай дый дарэмна чакае таго-ж ад Нямеччыны.

Нямецкая прэса піша, быццам мера нямецкага ўраду мае на мэце змусіць Польшчу да новых гаспадарчых перагавораў дзеля апрацаваньня больш карыснага для Ня

